I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** Верасень 2012

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну**




**У Гомелі падчас канцэрта загінуў бас-гітарыст гурта Litvintroll**

стар. 6

**У Гомелі вылучэнца ад сацсетак зарэгістравалі кандыдатам на дэпутацтва**

стар. 6

**Што першае зробяць кандыдаты ў дэпутаты пасля абвяшчэння вынікаў галасавання?**

стар. 8

# Прывітанне, мае паважаныя сябры!

**Маё імя Ігар Случак. Я кандыдат у дэпутаты ад Гомельскай-Савецкай выбарчай акругі №34, і толькі ад Вас залежыць: ці стану я Вашым дэпутатам, ці змагу прадстаўляць Вашы інтарэсы ў Парламенце.**

Вы мяне ведаеце. Я з Вашага Савецкага раёна, я асабіста збіраў подпісы, я быў у кожнай Вашай кватэры, я ведаю вашы праблемы.

Я іду на выбары, каб ажывіць Парламент, даць Вам пазітыўную альтэрнатыву, абараняць Вашы правы, чуць Вашы жаданні і меркаванні.

Рабіць рэформы і мадэрнізацыю ніколі не позна. Менавіта пра гэта гаворыцца ў Народнай праграме, распрацаванай з удзелам больш за 40 вядомых беларускіх экспертаў.

Народная праграма – за вяртанне Парламенту ягонай сапраўднай ролі. Цяперашні парламент сваёй асноўнай законатворчай функцыі не выконвае. Парламент мусіць быць цэнтрам распрацоўкі законаў, але гэты цэнтр трэба паставіць пад кантроль людзей. Мы прапануем ідэю Адкрытага парламенту.

У эканоміцы Народная праграма – за аздараўленне і мадэрнізацыю. Мы за празрыстыя і роўныя ўмовы для вядзення бізнесу.

Мая аўдыторыя ў першую чаргу - гэта моладзь, бо за ёй будучыня. Але я прашу Вас, моладзь, распавядзіце сваім бацькам, бабулям, дзядулям, хто такі Ігар Случак, запэўніце іх, што галасаваць трэба за мяне. Вы самыя актыўныя, ад вас усё залежыць. Але 75% тых, хто падпісаўся за мяне пры зборы подпісаў, гэта людзі сталага ўзросту, а таксама жанчыны. Дзякуй Вам, мае шаноўныя, я абавязкова апраўдаю Ваш давер!




Вы можаце запытацца, чаму я, Ігар Случак, пішу да Вас па-беларуску. Таму, што гэта тая мова, якую Вы ўсе ведаеце, разумееце, любіце і хочаце выкарыстоўваць, але не маеце магчымасці размаўляць па-беларуску ў жыцці па прычыне таго, што заканадаўства не абараняе беларускую мову, не створаны ўмовы для яе свабоднага выкарыстання.

Для гэтага я выступіў з грамадзянскай ініцыятывай “Справаводства па-беларуску!”. Яе галоўная задача - заканадаўча забяспечыць рэальнае раўнапраўе беларускай і рускай моў, каб у Вас была рэальная магчымасць выбіраць. І я ўпэўнены, што калі будуць створаны ўмовы для ўжывання беларускай мовы без стрэсу, Вы без праблем будзеце яе выкарыстоўваць.

Вам могуць сказаць – галасуйце за дырэктара, у яго вопыт, а хто такі Ігар Случак? А Ігар Случак такі ж самы просты чалавек, як і Вы. Таму, як вы думаеце, хто Вас лепш будзе разумець, хто будзе лепш абараняць Вашы праблемы ў Парламенце? Прызначыць дырэктарам на дзяржаўнае прадпрыемства можна любога, на тое яно і дзяржаўнае, бо не створанае сваёй працай. А Вы, мае шаноўныя сябры, усяго дамагаецеся толькі сваёй працай. Таму і вашым саюзнікам у Парламенце павінен быць такі ж самы, як і вы, просты чалавек, Ваш Ігар Случак.

У адрозненні ад іншых кандыдатаў у мяне ўжо ёсць вопыт парламенцкай працы. Не маючы пасады дэпутата, я ўжо ўносіў на разгляд Парламента змены ў Законы, і яны былі прынятыя. Таму, абраўшы мяне, Вы можаце быць

упэўненымі, што маючы дэпутацкі статус, гэта праца будзе працягнута на Вашу карысць і карысць усяго беларускага народа.

Я буду заўсёды з вамі, не буду хавацца за сценамі кабінетаў, буду ўздымаць у парламенце хвалюючыя Вас пытанні.

І апошняе.

Калі Вы абераце дэпутатам Ігара Случака, Ваша жыццё не стане адразу лепшым і цудоўным. Хто з іншых кандыдатаў Вам такое скажа, значыць ён проста хлусіць і плюе вам у твар! Вы разумныя людзі і ўсё разумееце. Але, калі я буду ў Парламенце, то прыкладу ўсе намаганні, каб у вас была магчымасць самім рабіць сваё жыццё лепшым, і каб ніхто Вам у гэтым не замінаў.

Таму 23 верасня проста прыйдзіце на выбары, запрасіце на іх сваіх сяброў, бацькоў, бабуляў і дзядуляў – гэта проста і лёгка, і гэты дзень, я ўпэўнены, будзе сонечны, як і Ваша будучыня. Пастаўце ўсе разам птушачку, а калі хочаце, то намалюйце смайлік насупраць імя Ігар Случак, і я ўпэўнены, мы пераможам, бо мы разам, і будучыня ёсць у кожнага з Вас, але зрабіць яе можаце толькі Вы! А я, Ігар Случак, дапамагу Вам у гэтым!

Маючы самую малую каманду ў Савецкім раёне Гомеля і пры ўсіх неспрыяльных умовах усё ж стаў першым, хто надрукаваў і атрымаў друкаваную агітацыйную прадукцыю за кошт сродкаў дзярбюджэту абыйшоўшы ўсіх кандыдатаў з 34 і 35 выбарчых акруг, сярод якіх былі між іншым яшчэ 6 кандыдаў, з якіх 2 кандыдата ад улады. Матывацыя і праца важныя ў любой справе, а пры іншых роўных умовах можна перамагаць і малымі сіламі.

Аказваецца, прааналізаваўшы сабраныя за мяне подпісы, атрымалася, што з 1063 подпісаў я асабіста сабраў 658, ці 61,9%. Хто яшчэ можа цяпер сумнявацца, што я не народны кандыдат?

Прааналізаваўшы 1063 подпісы, што былі сабраныя за Ігара Случака, гендэрны склад падпісантаў атрымаўся наступным:

Жанчыны - 784 подпісы, ці 73,7% ад агульнай колькасці.

Мужчыны - 279 подпісаў, ці 26,3% ад агульнай колькасці.

Як бачым, мужыкі Савецкага раёну выявілі сваю вялікую пасіўнасць і абыякавасць да грамадска-палітычнага жыцця, а можа і жыцця наогул, затое жанчыны руляць - вызначылі кандыдата, якога і мужыкі будуць у выніку абіраць. Феменізм на асобнай выбарчай акрузе перамог цалкам! Можа мужыкоў наогул актыўнага выбарчага права пазбавіць?

Гомельская-Савецкая выбарчая акруга №34 самая вялікая ў Гомелі. На ёй пражывае 70992 выбаршчыкі. З гэтых 70992 чалавек за вылучэнне мяне кандыдатам у дэпутаты падпісалася 1063 чалавекі, ці 1,5% ад агульнай колькасці выбаршыкаў.

Яшчэ адна статыстыка па ўзросту. 1054 прааналізаваных подпісаў за вылучэнне кандыдатам ў дэпутаты Ігара Случака размеркаваліся наступным чынам:

Асобы да 20-ці гадоў - 38 чалавек (3,6%)
Ад 20-ці да 30-ці гадоў - 186 чалавек (17,6%)
Ад 30-ці да 40-ка гадоў - 138 чалавек (13,1%)
Ад 40-ка да 50-ці гадоў - 210 чалавек (19,9%)
Ад 50-ці да 60-ці гадоў - 250 чалавек (23,7%)
Ад 60-ці да 70-ці гадоў - 136 чалавек (12,9%)

**Колькасць подпісаў ў падтрымку вылучэння Ігара Случака па гадах нараджэння падпісантаў**



Ад 70-ці да 80-ці гадоў - 83 чалавека (7,9%)

Больш за 80 гадоў - 13 чалавек (1,3%)

Калі чалавек сустракае ідэальнага кандыдата ў дэпутаты



Байкатуе выбары

Галасуе за Случака




Месцы аддаўшых подпіс за мяне выбарцаў з 1 па 27 паводле даты нараджэння:

1-е месца: 1963 год - 34 подпісы.

2-е месца: 1962 год - 30 подпісаў.

3-е месца: 1966 год - 29 подпісаў.

4-е месца: 1958, 1957, 1954, 1953 гады - па 28 подпісаў кожны.

5-е месца: 1955 год - 27 подпісаў.

6-е месца: 1988, 1983 гады - па 25 подпісаў кожны.

7-е месца: 1959, 1956, 1952 гады - па 24 подпісы кожны.

8-е месца: 1969, 1964 гады - па 23 подпісы кожны.

9-е месца: 1986 год - 21 подпіс.

11-е месца: 1989, 1985, 1980, 1960, 1949 гады - па 20 подпісаў кожны.

12-е месца: 1978, 1961, 1947 гады - па 19 подпісаў кожны.

13-е месца: 1981, 1965 гады - па 18 подпісаў кожны.

14-е месца: 1992, 1991, 1967 гады - па 17 подпісаў кожны.

15-е месца: 1982, 1979, 1974, 1946 гады - па 16 подпісаў кожны.

16-е месца: 1993, 1990, 1984, 1970, 1951 гады - па 15 подпісаў кожны.

17-е месца: 1973, 1950, 1948 гады - па 14 подпісаў кожны.

18-е месца: 1976, 1937 гады - па 13 подпісаў кожны.

19-е месца: 1982, 1968, 1940, 1933 гады - па 12 подпісаў кожны.

20-е месца: 1975, 1945, 1944, 1941, 1938 гады - па 10 подпісаў кожны.

21-е месца: 1971, 1943, 1942, 1939 гады - па 9 подпісаў кожны.

22-е месца: 1977, 1936 гады - па 8 подпісаў кожны.

23-е месца: 1994 год, 6 подпісаў.

24 -е месца: 1972 год, 4 подпісы.

25 -е месца: 1935, 1934, 1932, 1930, 1928 гады, па 3 подпісы кожны.

26 -е месца: 1931, 1929, 1925 гады, па 2 подпісы кожны.

27 -е месца: 1926 год, 1 подпіс.




Самыя пасіўныя прадстаўнікі 1972 года - ад іх было атрымана толькі 4 подпісы. Меньш было толькі ад прадстаўнікоў пачынаючы ад 1935 года і ніжэй, што і зразумела - гэтых гадоў ужо амаль няма ў жывых. І нават ад прадстаўнікоў 1933 года было атрымана 12 подпісаў. Можа 1972 таксма паптрапіў пад нейкія рэпрэсіі, войны, чысткі ? Ці проста яны ў сваёй большасці па нейкіх прычынах вядуць амёбнае існаванне?

# Першыя і апошнія тэледэбаты ў Гомелі

***У студыі мясцовай тэлерадыёкампаніі 7 верасьня запісалі тэледэбаты кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.***

У іх пажадалі ўдзельнічаць трое зь пяці прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат Гомельскай-Савецкай выбарчай акругі № 34: кандыдат ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі Васіль Палякоў, студэнт Ігар Случак і беспартыйны вылучэнец, кладаўшчык Гомельскага мясакамбінату Яраслаў Гараненкаў.

Іншыя два кандыдаты: дырэктар цеплавы сетак Міхаіл Пачынок і прадстаўнік Лібэральна-дэмакратычнай партыі Сяргей Круглоў — ад дэбатаў адмовіліся.

Палякоў: «Кожнаму з нас было адпушчана 5 хвілінаў тэлевізійнага часу. Калі ў мяне запыталіся, чаму не было майго тэлевыступу ў эфіры, я патлумачыў: таму што ў нас няма выбараў. Я сказаў пра гэта падчас тэлевыступу, і мяне не пусьцілі ў эфір. Выбары — у Амэрыцы, а ў Беларусі ёсьць сьвята для народу».

Яраслаў Гараненкаў як рабочы чалавек заявіў, што бярэ ўдзел у выбарах з простай прычыны: у Беларусі патрэбныя перамены, і ў палітыку мусяць ісьці маладыя людзі.

Студэнт Ігар Случак распачаў кампанію «Справаводзтва па-беларуску» з-за таго, што пасьля ўвядзеньня дзьвюхмоўя беларуская мова, мова тытульнай нацыі, стала шпаркімі тэмпамі выцясьняцца з паўсядзённага ўжытку й пастаўлена цяпер на мяжу выжываньня. Ня будзе мовы — ня будзе й краіны.




Удзельнікі дэбатаў крыху засмучаныя тым, што іх праігнаравалі кандыдаты ад улады. Прычым, ня толькі ў акрузе № 34, але і ў шаснаццаці іншых, якія сфармаваныя на тэрыторыі Гомельскай вобласьці. Паўнавартаснай дыскусіі не атрымліваецца, бо погляды незалежных кандыдатаў мала ў чым адрозьніваюцца. І выглядае, што першыя тэледэбаты стануць у рэгіёне й апошнімі. Ня ясна яшчэ, ці пакажуць іх наагул выбарцам. Прынамсі, даты выхаду запісаных дэбатаў у эфір іх удзельнікам не назвалі.

"Стаў даверанай асобай Ігара Случака, таму што для мяне справаводства па-беларуску адна з мэтаў якія складаюць нашую агульнаю канцэпцыю. Канцэпцыю фармаваньня беларускага народу, беларускай самасьвядомасьці!", - Зьміцер Афанасенка, рок-музыка, лідар гурта AMAROKA, намесьнік дырэктара АртСядзібы.

"Мне традыцыйна імпануюць маладыя і актыўныя палітыкі, якія жадаюць перамен і думаюць, як іх можна дасягнуць. Такія стварылі "Народную Праграму"Руху "За Свабоду!", яны ж яе і прасоўваюць у грамадства. Ігар Случак атыўна працаваў над стварэннем гэтага дакумента, і я не мог не падтрымаць яго па гэтай прычыне", - Пётр Кузняцоў, каардынатар Руху "За Свабоду!" па Гомельскай вобласці, давераная асоба Ігара Случака, кандыдата ў дэпутаты Парламента Беалрусі ад Гомельскай-Савецкай выбарчай акругі №34

"Ігара Случака ведаю даўно як адказнага і мэтанакіраванага, вельмі пазітыўнага маладога чалавека. Вельмі паважаю тую працу, якую ён робіць у галіне беларусізацыі", - Галіна Краўчанка, кандыдат у дэпутаты Парламента Беларусі ад Гомельскай-Прамысловай выбарчай акругі №35, давераная асоба кандыдата ў дэпутаты Парламента Беларусі ад Гомельскай-Савецкай выбарчай акругі №34 Ігара Случака

*аўтар: Радыё Свабода*



# У Гомелі вылучэнца ад сацсетак зарэгістравалі кандыдатам на дэпутацтва

***Ігар Случак стаў першым у Беларусі зарэгістраваным кандыдатам ад сацыяльных сетак. Падчас збору подпісаў Случак атрымаў па шыі ад выбарніка і ўжо не спадзяваўся, што яго зарэгіструюць. Аднак студэнт прайшоў. Зараз ён канкуруе з двума апазіцыйнымі кандыдатамі, рабочым з заводу і дырэктарам дзяржаўнага прадпрыемства.***

***Віртуальны старт***

Гомельская савецкая акруга, у якой балатуецца Ігар Случак, – самая буйная у вобласці. Тут жывуць каля 70 тысяч выбарнікаў. І пяцёра кандыдатаў, зарэгістраваных у акрузе, маюць дзе развярнуцца.

Ігару Случаку 27 гадоў, сваю ініцыятыўную групу ён набраў у сацыяльнай сетцы "ВКонтакте", акругу, па якой вылучаецца, таксама выбіралі карыстальнікі інтэрнэту праз галасаванне.

***Змаганне з сістэмаю***

Як паказала рэгістрацыя, шлях ад сацыяльнай сеткі да балатавання ў парламент можа быць паспяховы – хаця Случак і баяўся, што камісія можа знайсці ў яго "несапраўдныя подпісы" і выкінуць з акругі. "Я моцна сумняваўся, што мяне зарэгіструюць, бо ў мяне даволі вялікая вядомасць у раёне, людзі мяне пазнаюць, цікавяцца. А прадзяржаўны кандыдат ніколі не прыходзіў на паседжанні, яго ніхто не ведае, ён не хоча камунікаваць з выбарнікамі. Таму я меркаваў, што камісія можа скасаваць мяне як моцнага канкурэнта", – распавядае Случак.



Праўладны кандыдат Пачынок працуе дырэктарам дзяржаўнага прадпрыемства, на паседжанні выбарчай камісіі дасылае свайго прадстаўніка. Таксама ён адмовіўся ад удзелу у дэбатах. Такім чынам, у Гомельскай савецкай выбарчай акрузе дэбаты пройдуць паміж трыма кандыдатамі: Ігарам Случаком, Васілём Паляковым (АГП) і Яраславам Гаранянковым (рабочы мясакамбінату). Кандыдат ад ЛДПБ таксама адмовіўся ад дэбатаў. "Гэта, можа, і добра. Мы, незалежныя кандыдаты, будзем утрох выказвацца 15 хвілінаў часу, на кожнага па 5 хвілінаў эфіру. Пастараемся данесці сваю думку да выбарнікаў", – кажа Случак.

***Чаго хочуць выбарнікі?***

Падчас збору подпісаў Ігар Случак атрымліваў ад выбарнікаў наказы, а аднаго разу нават па шыі. Гэта быў дзядзька нападпітку, які прыняў Случака за прадстаўніка ўладаў і хацеў матузамі адплаціць яму за свае крыўды. "У людзей амаль няма ніякага даверу да парламенту, яны не ведаюць, для чаго гэта трэба, бо ў іх такое разуменне, што ўсё вырашае прэзідэнт. Праблемы людзі агучвалі бытавыя: там лямпачку ўкруціць, там начнік закрыць, а там начнік адкрыць, лаўку пафарбаваць. А былі людзі больш свядомыя, якія наказвалі ўздымаць і агучваць важныя пытанні ў парламенце, а не замоўчваць іх, як старыя дэпутаты. Кажуць, што трэба выбіраць дэпутатамі маладых людзей", – падзяліўся Ігар Случак.

*belsat.eu*

# У Гомелі падчас канцэрта загінуў бас-гітарыст гурта Litvintroll

***Не стала басіста метал-групы Litvintroll Алега Клімчанкі.***

Музыка загінуў падчас канцэрта гурта ў Гомелі ў межах фэсту МАСС МЕДИУМ 2012. Паводле словаў відавочцы Ігара Случака, трагедыя здарылася прыблізна а 19-й гадзіне ў Гарадскім цэнтры культуры. На сцэне, дзе выступалі ўдзельнікі гурта, выпадкова разлілася вада, з-за чаго закараціла электраапаратуру. Алега Клімчанку ўдарыла токам. Праз некалькі хвілінаў на месца здарэння прыехала брыгада хуткай дапамогі. Хлопца выратаваць не змаглі. Фестываль МАСС МЕДИУМ 2012 быў спынены.

Гурт Litvintroll быў утвораны ў 2005 годзе. Музыкі выконвалі фолк-метал у суправаджэнні беларускіх дудаў.

*Мікола Бянько, Радыё Рацыя, Гомель*

# Дэмакратычны кандыдат агітуе ў Гомелі на сьвяце гораду

***8 верасьня Гомель сьвяткаваў свае 870-я ўгодкі з моманту летапіснай згадкі. Багатыя забаўляльная праграмы ва ўсіх чатырох раёнах гораду не перашкодзілі, аднак, некаторым кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў арганізаваць у гэты дзень сваю агітацыйную кампанію.***



Прынамсі, кандыдат ў дэпутаты у Гомельскай-Савецкай выбарчай акрузе № 34 Ігар Случак скарыстаў Дзень гораду дзеля раздачы агітацыйных улётак на Рэчыцкай шашы, дзе знаходзіцца ягоная выбарчая акруга (здымкі 1,2,3).

Ігар — студэнт юрыдычнага факультэту Тартускага ўнівэрсытэту, вылучыўся кандыдатам у дэпутаты шляхам збору подпісаў. У Гомелі ён вядомы як ініцыятар кампаніі «Справаводзтва па-беларуску», мэта якой перавесьці справаводзтва ў дзяржаўных ды іншых установах і арганізацыях на беларускую мову, зьмяніць заканадаўства аб мовах, каб павысіць статус беларускай мовы ў Беларусі.

Убачыўшы ўжывую маладога кандыдата, адна з выбаршчыц заявіла: «Я заўсёды на выбарах галасую за моладзь. Але чаму яна нікуды не праходзіць — вось дзе пытаньне. Хто перашкаджае ім абірацца ў прадстаўнічыя органы ўлады? Моладзь, напэўна, неяк перамяніла б, упрыгожыла б нашае жыцьцё, зрабіла б яго лепшым. Ужо надакучыла жыць па-старому».

Случак на гэта адказвае: «Дык я й іду ў парлямэт, каб ставіць і прымаць законы, якія спрыяюць вырашэньню надзённых пытаньняў выбарцаў».




Некаторыя гараджане бяруць друкаваныя матэрыялы як нейкую рэкляму. А той, хто прабягае вачыма па зьместу ўлётак, гляне на здымак, шчыра зьдзіўляецца: «Нарэшце, жывога кандыдата бачу! А то галасуем, галасуем, а хто яны, дэпутаты, невядома».

*Радыё Свабода*

**Lesley Knife (Уладзіслаў Наважылаў), лідар і вакаліст гурта Gods Tower:**

*"Лічу, што ў наш час сярод гомельскіх грамадскіх дзеячоў, Ігар Случак адзіны, хто мае рацыянальную праграму, таму я вырашыў падтрымаць менавіта яго. Ні адзін пункт яго праграмы ў мяне сумнення не выклікае. Падтрымліваю Ігара Случака, бо цяперашніх бяздзейсных муміяў можа змяніць толькі маладыя дзеяч, які выйшаў з вуліцы і маладзёвай супольнасці, а не той, каго ўзгадавала ў абарону сваіх інтарэсаў вышэйшая геронтакратыя"*



# Што першае зробяць кандыдаты ў дэпутаты пасля абвяшчэння вынікаў галасавання?

*Аўтар: Зміцер Лукашук*

Гумарыст і намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Яўген Крыжаноўскі адразу кінецца... рабіць пятага дзіця.

***Яўген Крыжаноўскі:*** "Дзесьці а 12-й ночы ўсе ведаюць — хто стаў, хто не стаў, і а першай ночы я пачынаю рабіць пятае дзіця. Калі стану дэпутатам. Калі не, то цэлібат не аб'яўлю, проста займуся гэтым крыху пазней — выйду з запою ад гора і ўсё адно займуся гэтай справай. Я прапаноўваю ўсім мужыкам за гэтую справу ўзяцца: прыемная справа — чаму ж не!"

Намеснік старшыні Камуністычнай партыі Беларусі і пакуль дзеючы дэпутат парламента ***Валянціна Леаненка*** прызнаецца: якім бы ні быў вынік — найперш будзе адсыпацца.

Валянціна Леаненка: "Пайду нарэшце адасплюся! Бо за гэтую выбарчую кампанію мы выматаныя так бываем, што адзінае жаданне, ведаеце, адаспацца і адпачыць".

Экс-кандыдат у прэзідэнты ***Віктар Цярэшчанка*** святкаванне перамогі плануе абмежаваць келіхам шампанскага. Абмежаванне будзе тычыцца і сябраў яго ініцыятыўнай групы.

Віктар Цярэшчанка: "Вып'ем келіх шампанскага, здымем стрэс, пойдзем спаць, раніцай прачнёмся і будзем думаць, як ажыццявіць маю праграму".




Актывістка кампаніі "Гавары праўду!" ***Таццяна Караткевіч*** спачатку таксама хацела абмежавацца "15 кроплямі" шампанскага на ўсіх ды ложкам, але потым перадумала.

Таццяна Караткевіч: "Ведаеце, я ж балатуюся першы раз. Не ведаю, ці будзе другі раз, і таму трэба адзначаць такія рэчы, трэба рабіць усё, што ад цябе залежыць. Калі ёсць канкурэнты, якія раптам перамогуць мяне, то іх трэба павіншаваць. Ну, і калег па цэху — іншых дэмакратычных кандыдатаў".

Карацей, не выключана, што дабрацца да ложка ў Таццяны пры любым выніку галасавання хутка не атрымаецца.

А вось ***Ігар Случак*** плануе паразу святкаваць як мінімум суткі, а перамогу — не менш за двое-трое. Прычым, па поўнай праграме, з усімі атрыбутамі моладзевай тусоўкі — алкаголем і дзяўчатамі!

Ігар Случак: "Я думаю, будзем гуляць усю ноч у любым выпадку. А калі выбяруць дэпутатам, то мы можам гуляць і другі дзень, і трэці. З усім наборам, які можа быць пры такой нагодзе".

Яшчэ адзін экс-кандыдат у прэзідэнты ***Рыгор Кастусёў*** у выпадку перамогі плануе ўзняць чарку гарэлкі. Галоўнае, каб журналісты не зашкодзілі.

Рыгор Кастусёў: "Зразумела, калі вы не будзеце надакучваць, маецца на ўвазе — тэлефанаваць, тады можна будзе і чарку ўзняць. Калі будзе перамога. Ну, а калі зацвердзяць іншага... Я да гэтага стаўлюся спакойна".

А таму ў выніку паразы кандыдат ад Партыі БНФ спакойна пойдзе спаць. Не баючыся тэлефанаванняў надакучлівых журналістаў.

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
"Гомельскія Навінкі верасень 2012"
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246050, г. Гомель, вул. Мазаева, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2012"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.




Мы ў сацыяльных сетках:
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/gumno2007
***facebook.com:*** http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava
***Аляксей Венецыянаў:*** http://vk.com/id167202367

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA